# Голас Радзімы

№ 20 (2006)
14 мая 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Больш за трыццаць год працуе ў Брынёўскай сярэдняй школе Петрыкаўскага раёна на Гомельшчыне заслужаны настаўнік Беларусі, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Ганчар. Тут ён і дырэктар, і адначасова выкладае гісторыю і грамадазнаўства, рускую мову і літаратуру. Рыгор Фёдаравіч лічыць, што жыццёвая пазіцыя чалавека пачынаецца са школьнай парты. Таму яго ўрокі носяць праблемны характар, вучаць думаць, смела выказваць сваё меркаванне. Тэмы многіх творчых работ настаўнік звязвае з жыццём вёскі, з тым, што бачаць школьнікі вакол сябе.

НА ЗДЫМКУ: Р. ГАНЧАР сярод дзесяцікласнікаў.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# СВЯТА НАШАЙ ПЕРАМОГІ

У шэрагу дат, якія звязаны з эпахальнымі, паваротнымі падзеямі ў жыцці чалавецтва, стаіць і Дзень Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Вясной 1945 года гэты дзень увянчаў сабой трыумф розуму над цемрашальствам і гуманізму над чалавеканенавісніцтвам.

Нанёсшы паражэнне фашызму, савецкі народ не толькі адстаяў першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Сваёй перамогай ён унёс рашаючы ўклад у вызваленне народаў Еўропы ад фашысцкага рабства, у выратаванне сусветнай цывілізацыі, адкрыў новыя магчымасці для барацьбы народаў за мір, дэмакратыю, нацыянальнае вызваленне і сацыялізм.

Сорак другі раз адзначыла наша краіна свята Перамогі. У гэты дзень вялікія ўрачыстасці адбыліся і ў Беларусі.

...9 Мая. Мінск. Тысячы жыхароў і гасцей беларускай сталіцы сабраліся на свята. Кіраўнікі Кампартыі і ўрада рэспублікі, прадстаўнікі Ваеннага савета Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, грамадскіх арганізацый Беларусі і Мінска, ветэраны вайны і працы, працоўных калектываў усклалі кветкі, вянкі, гірлянды да помніка У. І. Леніну, помніка-абеліска на плошчы Перамогі, Кургана Славы і на мемарыяльным комплексе «Хатынь».

Кветкі і вянкі былі ўскладзены ад генеральных консульстваў Польскай Народнай Рэспублікі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Мінску, а таксама ад зарубежных прафсаюзных арганізацый.

Удзельнікі ўскладання мінутай маўчання ўшанавалі памяць загінуўшых.

У крэпасці-герої Брэсце адбыўся мітынг-рэквіем. Тут ва ўрачыстасцях, у цырымоніі ўшанавання памяці загінуўшых прынялі ўдзел і дэлегацыі з Люблінскага і Бяла-Падляскага ваяводстваў Польскай Народнай Рэспублікі.

Кветкі і вянкі былі ўскладзены ў гэты дзень да брацкіх магіл, помнікаў, абеліскаў, мемарыяльных дошак ва ўсіх гарадах і вёсках рэспублікі.

Вечарам 9 Мая ў азнаменаванне 42-й гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне ў сталіцы нашай Радзімы Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, гарадах-героях прагрымелі святочныя салюты.



**НА ЗДЫМКУ: кіраўнікі Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі на плошчы Перамогі ў Мінску 9 мая 1987 года.**

ДЗЕНЬ ДРУКУ



**75 гадоў назад, 5 мая 1912 года, выйшаў першы нумар штодзённай масавай бальшавіцкай газеты «Праўда». Штогод у гэты дзень работнікі газет і часопісаў, выдавецтваў і паліграфічнай прамысловасці разам з мільёнамі чытачоў адзначаюць традыцыйнае свята — Дзень друку. У сталіцы нашай рэспублікі яго масавае святкаванне наладзілі ў першую майскую нядзелю. Як і летась, месцам правядзення свята стаў Цэнтральны парк імя Горкага. Тысячы мінчан, якія прыйшлі сюды, маглі пазнаёміцца з работай калектываў рэспубліканскіх газет і часопісаў праз спецыяльна афармленыя стэнды, а таксама сустрэцца з супрацоўнікамі рэдакцый, задаць журналістам пытанні.**

**Разнастайнай была культурная праграма свята, у якой прынялі ўдзел прафесійныя і самадзейныя калектывы беларускай сталіцы.**

**НА ЗДЫМКУ: свята друку ў парку імя Горкага ў Мінску.**

НА СРОДКІ СУБОТНІКА

## У ФОНД ПЯЦІГОДКІ

18 красавіка адбыўся Усесаюзны камуністычны суботнік, прысвечаны 117-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. Ён з'явіўся яркім сведчаннем палітычнай і працоўнай актыўнасці савецкіх людзей, іх імкнення дастойна сустрэць 70-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У суботніку прынялі ўдзел 159 мільёнаў чалавек, якія працавалі на сваіх рабочых месцах у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, на транспарце і ў іншых галінах народнай гаспадаркі, а таксама на добраўпарадкаванні гарадоў і населеных пунктаў.

Паводле папярэдніх даных, толькі прамысловай прадукцыі выраблена ў гэты дзень на 1 387 мільёнаў рублёў. У многіх працоўных калектывах выпушчана прадукцыі больш, чым у звычайныя дні. Значны аб'ём яе выраблен на з'эканомленай сыравіне, матэрыялах, паліве. Удзельнікамі суботніка зароблена і пералічана ў фонд пяцігодкі 208 мільёнаў рублёў.

Сродкі, зароблены на суботніку, з улікам пажаданняў працоўных накіроўваюцца на рэканструкцыю, тэхнічнае пераасначшэнне і добраўпарадкаванне бальніц, радзільных дамоў і амбулаторна-палікліпічных устаноў, аснашчэнне іх сучаснымі сродкамі дыягностыкі і догляду хворых.

УЗНАГАРОДЫ

## АДЗНАЧАНЫ ЗАСЛУГІ

У генеральным консульстве ПНР у Мінску адбылася цырымонія ўручэння Залатога ордэна за заслугі перад Польскай Народнай Рэспублікай старэйшаму беларускаму паэту і перакладчыку Янку Семяжону і ўзнагароды за заслугі перад польскай культурай вядомаму графіку, прафесару Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Васілю Шаранговічу.

Такой высокай ацэнкі яны ўдастоены за адну са сваіх апошніх работ — пераклад на беларускую мову і мастацкае афармленне паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якую выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Уручаючы ўзнагароды, консул па справах культуры Казімеж Паскудзкі адзначыў, што пераклад і выданне на беларускай мове шэдэўра Адама Міцкевіча сталі важнай падзеяй у культурным жыцці братніх рэспублік.

ДРУЖАЛЮБНЫЯ СУВЯЗІ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ПАТСДАМА

Па запрашэнню выканаўчага камітэта Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў у беларускай сталіцы знаходзілася дэлегацыя акругі Патсдам Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Мінск і Патсдам — гарады-пабрацімы. На працягу многіх гадоў яны падтрымліваюць дружалюбныя сувязі, абменьваюцца дэлегацыямі.

За пяць дзён знаходжання ў Беларусі госці з ГДР пабывалі на прамысловых прадпрыемствах Мінска і Салігорска, наведалі калгасы і саўгасы Дзяржынскага і Капыльскага раёнаў.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## СУМЕСНЫ СЕМІНАР

На працягу трох дзён у Мінску працаваў савецка-фінляндскі семінар па сацыяльных пытаннях.

Перад яго ўдзельнікамі выступілі з дакладамі міністр сацыяльнага забеспячэння БССР Г. Крыулін, першы намеснік міністра аховы здароўя БССР К. Анішчанка, кіраўнік фінскай дэлегацыі Ээра Пікуямся. Фінскія спецыялісты азнаёміліся з сістэмай аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння Беларускай ССР, абмяняліся думкамі аб праблемах і перспектывах яе развіцця.

ПРАФСАЮЗНЫЯ КАНТАКТЫ

## СУСТРЭЧЫ Ў МІНСКУ

Беларускую сталіцу наведалі прафсаюзныя дэлегацыі Даніі, Ісландыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Швецыі, якія па запрашэнню савецкіх прафсаюзаў удзельнічалі ў святкаванні Першамая ў Маскве.

Госці мелі сустрэчу ў Беларускім рэспубліканскім савеце прафсаюзаў. На прамысловых прадпрыемствах сталіцы яны цікавіліся ўмовамі працы і адпачынку рабочых, гутарылі з прафсаюзнымі актывістамі.

Члены дэлегацыі зрабілі экскурсію па Мінску, пабывалі ў музеях, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь».

АДКРЫЛІ НАВІГАЦЫЮ

## ПОРТ НА РАЦЭ ПІНЕ

З новай гавані пачалі навігацыю рачнікі Пінска. Тут, непадалёку ад вёскі Дамашыцы, на рацэ Піне, пабудаваны новы порт. Ранейшы, які размяшчаўся ў рысе горада і інтэнсіўна эксплуатаваўся больш за сто год, ужо не спраўляўся з узросшым аб'ёмам перавозак і да таго ж забруджваў навакольнае асяроддзе. Цяпер выкарыстанне вялікагрузных барж-пляцовак дасць магчымасць амаль у паўтара раза павялічыць аб'ём перапрацоўкі грузаў гэтага буйнога транспартнага вузла.

САЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

## ДЛЯ СПАКОЙНАЙ СТАРАСЦІ

У маляўнічай мясцовасці непадалёку ад Навагрудка ўзняліся карпусы новага дома-інтэрната для ветэранаў вайны і працы. Гэта комплекс будынкаў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння, куды ўваходзяць два пяціпавярховыя жылыя карпусы. Для ўмацавання здароўя пажылых людзей створаны фізіятэрапеўтычны, працэдурны, электра- і водалячэбны кабінеты, абсталяваны найноўшай апаратурай. Комплекснае медыцынскае абслугоўванне будуць ажыццяўляць урачы медыцынскіх устаноў Гродзенскай вобласці.

Багацце і разнастайнасць стала дома ветэранаў дапаможа забяспечыць падсобная гаспадарка: кароўнік, свінарнік, птушнік, трусятнік, цяпліца. Тут ветэраны змогуць знайсці для сябе занятак па сіле.

ПРАПАНУЮЦЬ ЛІНГВІСТЫ

## УНІВЕРСАЛЬНЫ КОД

Універсальны семантычны код — так называецца прынцыпова новая мова для рашэння складаных камп'ютэрных задач. Ён аднолькава зразумелы і чалавеку, і машыне. Мова распрацавана супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР, якія працуюць разам з маскоўскімі спецыялістамі над праблемай «штучны інтэлект».

У вылічальным цэнтры Акадэміі навук СССР з дапамогаю новай мовы ўдалося вырашыць некаторыя складаныя задачы па планаванню, сітуацыйнаму кіраванню, якія звычайнымі метадамі не рашаюцца.

На думку вучоных, новы код у недалёкай будучыні можа стаць звычайнай машыннай мовай.

У ФОКУСЕ АБ'ЕКТЫВА

## АДЗІН ДЗЕНЬ І СТО ФАТОГРАФАЎ

15 мая сто лепшых фотамайстроў — 30 чалавек з ЗША, 20 з заходнееўрапейскіх краін, 40 з Савецкага Саюза і 10 з іншых сацыялістычных краін будуць удзельнічаць у самай буйной з фотаздымак, якія калі-небудзь праходзілі на тэрыторыі СССР. На ўсіх 11 гадзінных паясах — ад Львова да Чукоткі — у фокусе іх аб'ектываў акажуцца савецкія людзі — на больш чым 100 тысячах кадраў з прыкладна трох тысяч адзняты плёнак. Фотамайстрам трэба будзе адлюстраваць жыццё савецкіх людзей, падмечанае на працягу толькі 24 гадзін аднаго дня, каб стварыць незабыўны шматпланавы партрэт народаў СССР, якія адзначаюць сёлета 70-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Арганізатары гэтай акцыі — выдавец Дэвід Коэн і фатограф Рык Смолан.

ЗАВОД У КАЛГАСЕ

## ПА НАРОДНЫХ РЭЦЭПТАХ

Па забытых народных рэцэптах наладжана вытворчасць новых відаў далікатэсных кансерваў і сокаў на заводзе калгаса «Дружба» Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Гэта агародніна з фасоляй па-беларуску, салянка агародніная з грыбамі «Палеская», буракі марынаваныя, кансерваваныя агуркі, бярозавы сок, настоены на мяце...

Уласнае кансервавае прадпрыемства дапамагло калгасу вырашыць праблему найбольш поўнага выкарыстання агародніны, фруктаў, дароў прыроды: грыбоў, бярозавага соку, чарніц, чарнаплоднай рабіны.

НОВАЯ ТЭХНІКА

## ВЫСОКАПРАДУКЦЫЙНЫЯ ЖНЯЯРКІ

Убіраць хлеб у самы спрыяльны час, прычым меншай колькасцю машын—такую магчымасць даюць універсальныя жняяркі, выпуск якіх наладзіў Баранавіцкі камбінат сянажных вежаў. Новыя агрэгаты могуць скошваць збожжавыя, зернебабовыя, насеннікі траў, а таксама доўгасцяблововыя палеглыя пасевы.

Убіраць палеглую складана. Працаваць даводзіцца на паніжанай скорасці, прадукцыйнасць падае, расход паліва павялічваецца. Як ні стараецца механізатар, страт не пазбегнуць. А новая жняярка прышадымае палеглае сцябло, разблытвае яго і, як брытвай, зразае ля самых каранёў, не пакідаючы на полі ні каласка, ні саломінкі. Прадукцыйнасць агрэгата высокая—за гадзіну ён скошвае пасевы на гектары, што на трэць больш, чым звычайныя жняяркі.

Сёлета Баранавіцкі камбінат выпусціць тысячу такіх жнярак, а ў наступным годзе іх вытворчасць будзе павялічана ўтрая.

✦ 50 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ НА ПЕРАКРЫЦЦЁ ДЫСПРАПОРЦЫЙ ✦ НЕ ЗА КОШТ НАСЕЛЬНІЦТВА ✦ У БАРАЦЬБЕ З АЛКАГАЛІЗМАМ ✦ СЯМ'Я КУПЛЯЕ ДАРАГІЯ ТАВАРЫ

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА З ЦЭНАМІ Ў СССР?

Яны не стаяць на месцы. Іх індэкс, паводле даных Дзяржаўнага камітэта цэн СССР, з 1970 па 1986 год узняўся на восем пунктаў. Іншымі словамі, цэны раслі ў сярэднім на палавіну працэнта ў год.

Нават чалавеку, далёкаму ад эканомікі, ясна, што цэны і дабрабыт людзей цесна ўзаемазвязаны. Яны ў нечым падобныя да сазлучаных сасудаў — калі ў першым прыбывае, то ў другім убывае.

Дык вось, у Савецкім Саюзе цэны раслі галоўным чынам за кошт падаражання прадметаў раскошы, вострамодных тавараў і алкагольных напіткаў. На асноўныя прадуктовыя і непрадуктовыя тавары яны не мяняюцца. Напрыклад, на хлеб, цукар, яйкі і многія іншыя — з 1954 года, а на мяса, масла, малако, сыры — з 1962 года.

— Нізкія і стабільныя цэны на прадукты, тавары і паслугі, якія мы адносім да катэгорыі першай неабходнасці, робяць іх агульнадаступнымі, — гаворыць намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта цэн **Юрый ЖУКАЎ.** — І гэта — галоўнае, дзеля чаго цэны на іх утрымліваюцца на нязменным узроўні. Значыць, нізкія і стабільныя цэны выконваюць у даным выпадку не столькі эканамічную, колькі сацыяльную ролю. У гэтым лёгка пераканацца, супаставіўшы сабекошт многіх тавараў, прадуктаў і паслуг з іх рознічнай цаной. Скажам, за мяса, малако і вырабы з іх савецкія людзі плацяць амаль удвая менш, чым затрачваецца на іх вытворчасць і рэалізацыю. Розніца пакрываецца з агульнанацыянальнага бюджэту, на гэта штогод выдзяляецца каля 50 мільярдаў рублёў, што між іншым, у два з лішнім разы перавышае бюджэтныя асігнаванні на абарону.

Такія ж льготныя цэны ўстаноўлены на многія тавары дзіцячага асартыменту, паслугі грамадскага транспарту і відовішчных устаноў. У тры разы ніжэй сабекошту аплачваецца арэнда дзяржаўнага жылля, якім карыстаецца большасць насельніцтва краіны. А бюджэт жа дзяржавы, з якога чэрпаюцца фінансавыя рэсурсы на пакрыццё ўзнікаючых у сувязі з гэтым дыспрапорцый, напаўняецца зусім не за кошт падаткаў з насельніцтва, як гэта робіцца ў іншых краінах. Асноўная яго крыніца (больш чым на 90 працэнтаў) — адлічэнні з прыбытку дзяржаўных прадпрыемстваў і гаспадарак.

Такім чынам, калі і адбываецца выклiканае льготнымі цэнамі пераразмеркаванне грашовых рэсурсаў дзяржавы, то зусім не за кошт насельніцтва. Дадайце да гэтых камерцыйных льгот такія даброты, як адукацыя, ахова здароўя, якімі савецкія людзі карыстаюцца бясплатна, пенсійнае забеспячэнне без папярэдніх адлічэнняў з заработнай платы, і вы можаце з дастатковай ступенню аб'ектыўнасці меркаваць, у чыіх інтарэсах усё гэта робіцца. І што не менш важна — дзеля чаго.

Апошнім часам эканамісты больш настойліва заклікаюць прывесці рознічныя цэны на мяса, малако і іншыя льготныя тавары і прадукты ў адпаведнасць з вытворчымі затратамі, а сродкі, якія скарыстоўваюцца ў якасці датацыі, справядліва размеркаваць паміж людзьмі. Якая пазіцыя Дзяржкамітэта па цэнах у гэтым пытанні?

На думку Юрыя Жукава, вырашэнне гэтай праблемы, несумненна, эканамічна мэтазгоднай, будзе залежаць ад таго, ці ўдасца выканаць дзве абавязковыя ўмовы: захаваць структуру харчаван[illegible] людзей і іх жыццёвы ўзров[illegible] Пакуль тое, што мяркуецца, не дазваляе разлічваць на станоўчы вынік. Таму праблема вывучаецца і ўсебакова аналізуецца.

Хоць гэта не азначае, што да таго часу, пакуль не будзе знойдзена рашэнн[illegible] цэны па ўсіх пазіцыях будуць заставацца нерухомымі. Мінулым летам, напрыклад, Дзяржкамітэт зноў павысіў цэны на спіртныя напіткі і адначасова знізіў іх на некаторыя прамысловыя тавары. Калі гэта перавесці на гадавы тавараабарот, то цяпер сума павышэння роўная суме паніжэння.

Яшчэ больш даступнымі сталі многія дзіцячыя тавары — цэны панізіліся на 20—30 працэнтаў. Прычым размова ідзе аб адзенні з шарсцяных тканін, аб трыкатажы, абутку. Сталі таннейшымі некаторыя маркі гадзіннікаў, фота- і кінаапараты, матацыклы, дываны, хрусталь і многае іншае. Такое ўпарадкаванне цэн, на думку Юрыя Жукава, адпавядае інтарэсам большасці.

Да таго ж яно адлюстроўвае імкненне грамадства засцерагчы сябе ад далейшага распаўсюджання алкагалізму — гэтай хваробы стагоддзя. Час, вядома, пакажа, наколькі эфектыўная гэтая мера. Хоць ужо цяпер, мяркуючы па продажы алкагольных напіткаў, які скараціўся больш чым на трэць, і, як вынік, змяншэнню колькасці парушэнняў грамадскага парадку, злачынстваў, што робяцца ў п'яным стане, па павышэнню вытворчай дысцыпліны, яна дае вынікі.

Гаворачы аб рознічных цэнах, людзі часта ўпамінаюць яшчэ і кватэрную плату. У многіх краінах на яе выдаткоўваецца амаль ці не трэць даходу сям'і. У СССР жыллё, якое ўзводзіцца ў асноўным на бюджэтныя асігнаванні, здаецца насельніцтву ў бестэрміновую арэнду за плату, якая разам з узносамі за камунальныя паслугі складае 4—5 працэнтаў у бюджэце сярэдняй па даходах сям'і. Дарэчы, сёння існуючыя стаўкі кватэрнай платы — своеасаблівыя рэкардсмены стабільнасці сярод рознічных цэн. Яны не мяняюцца з 1928 года. Тарыфы на камунальныя паслугі — з 1946 года. Адсюль і даступнасць арэнды для сям'і з любымі даходамі, хаця жыллё, дарагое само па сабе, з кожным годам абыходзіцца дзяржаве ўсё даражэй. І па затратах на будаўніцтва (у параўнанні з 1965 годам — у два разы), і па эксплуатацыйных выдатках.

Але даступнасць многіх тавараў і паслуг у выніку нізкіх і стабільных цэн — толькі адзін бок праяўлення сацыяльнай накіраванасці савецкай сістэмы цэнаўтварэння. Другая заключана ў тым, што ў выніку нязменнасці цэн на тавары, прадукты і паслугі першай неабходнасці ў насельніцтва па меры росту грашовых даходаў з'яўляецца больш магчымасцей купляць дарагія тавары. І гэта ўжо не лагічны вывад спецыяліста, а рэальная рэчаіснасць. У параўнанні з 1970 годам забяспечанасць сем'яў такімі таварамі працяглага карыстання, як, скажам, тэлевізары, радыёпрыёмнікі, магнітафоны, халадзільнікі, пральныя машыны, гэта значыць тым, што вызначае якасць жыцця, узрасла ў 5—10 разоў, а аўтамабілямі — больш чым у 20.

**Віктар СТАРАСЦІН.**

# КЛУБ ВЕТЭРАНАЎ ПРАЦЫ

...Афіш, якія б запрашалі на гэтую сустрэчу, каля Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтамабільнага завода не ўбачыш, але, як толькі расчыняюцца раніцай яго дзверы, адразу ажывае фае і запаўняецца вялікая зала. Людзі тут збіраюцца сталыя, але гэты збор нечым нагадвае школу пасля канікул: усе рады адзін аднаму, спяшаюцца падзяліцца навінамі. Так пачынаецца кожная традыцыйная серада заводскага клуба «Ветэран».

Праграма клубных сустрэч разнастайная. Прыходзяць у госці пісьменнікі, паэты, акцёры. Часта бываюць урачы, работнікі сацыяльнага забеспячэння, педагогі. У людзей старэйшага пакалення назіраецца сёння асаблівая цяга да педагагічных ведаў: працуючы, яны не маглі ўдзяляць сваім дзецям столькі часу, колькі аддаюць цяпер унукам, і выхоўваць іх бабулі і дзядулі хочуць па навуцы, не спадзеючыся на адзін толькі жыццёвы вопыт.

Клуб «Ветэран» аб'ядноўвае паўтары тысячы былых работнікаў аўтамабільнага завода. Нехта пайшоў на пенсію нядаўна, нехта 10—15 год назад, але ўсіх па-ранейшаму цікавіць тое, што адбываецца ў заводскіх цэхах, перспектывы развіцця аўтамабілебудавання. Аб гэтым расказваюць на клубных серадах кіраўнікі завода, вядучыя спецыялісты.

Традыцыйныя серады толькі частка дзейнасці клуба. Тут вырашаюцца і самыя розныя праблемы жыцця пенсіянера. Кіруе работай клуба выбарны савет, дапамагаюць яму шматлікія актывісты.

Калі хочаш часова папрацаваць, савет дапаможа працаўладкавацца. Патрэбна матэрыяльная дапамога—савет звернецца ў заводскі камітэт прафсаюза і ветэрану дапамогуць. Бытавая камісія савета, яе актывісты абследуюць жыллёвыя ўмовы пенсіянераў (у паляпшэнні жылля, атрыманні новай кватэры можна разлічваць на дапамогу завода), наведваюць хворых, размяркоўваюць пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку. Клуб мае тыя ж правы, што і любая цэхавая прафсаюзная арганізацыя, і пуцёўкі—бясплатныя ці за 30 працэнтаў кошту—яму выдзяляюць таксама, як любому цэху. У сераду можна пачуць аб'явы, якія пуцёўкі мае савет,— Крым, Падмаскоўе, заводскі санаторый-прафілакторый...

У членаў клуба «Ветэран» розныя ў мінулым прафесіі, розная адукацыя, розныя інтарэсы. Але на пытанне, што дае ім клуб, часцей за ўсё атрымліваеш падобныя адказы: адчуванне паўнаты жыцця, магчымасць сустрэч з людзьмі, якім дорага тое, што дорага і мне.

Такія клубы ёсць і на іншых прадпрыемствах нашай рэспубліцы.

**Тамара АЛЯКСАНДРАВА.**

## БУДУЧЫНЯ НАШЫХ ВЁСАК

# ДОМ ДЛЯ СЕЛЯНІНА

**Да 1990 года ў Беларусі плануецца здаць у эксплуатацыю 12,5 мільёна квадратных метраў сучаснага жылля ў сельскай мясцовасці. Як лічаць спецыялісты, гэтага дастаткова на трохмільённае сельскае насельніцтва рэспублікі.**

...Дарога была няблізкая. Я ўважліва ўглядаўся ў кожны вясковы двор. Дамы розныя: прыгожыя і не вельмі, пад жалезным і шыферным дахам, пад дранкай, пяцісценкі і старыя дзедаўскія хаты з хлявамі. Зрэшты, апошнія траплялiся рэдка.

І раптам машына выскачыла з ляснога калідора на вуліцу двухпавярховых асабнякоў дачнага тыпу. Гэта і былі новыя кварталы калгаса «Ленінскі шлях» Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Паводле слоў дырэктара «БелНДІгіпрасельбуда» (галаўная навукова-даследчая ўстанова, якая праектуе будаўніцтва ў сельскай мясцовасці) Уладзіміра Сакалоўскага, тут «ствараецца жыллё заўтрашняга дня». Дамы гэтыя ўжо атрымалі сваю афіцыяльную назву — дамы сядзібнага тыпу.

[illegible] старшынёй калгаса Мі[illegible]аем Васілевічам заходзім у дом палявода Лідзіі Дзерач. У двары хлеў з двума аддзяленнямі для жывёлы і птушкі, летняя ку[illegible] пад якой выкапаны ск[illegible] для захоўвання бульбы і розных саленняў. Дом фасадам выходзіць на вясковую вуліцу. На вокнах разныя ліштвы, акуратны палісаднік з клумбамі кветак, кусты бэзу, рабіны.

Агульная плошча дома — 80 квадратных метраў. У ім вельмі ўтульна. На першым паверсе вялікая гасціная і кухня-сталовая з рускай печчу і газавай плітой, на другім — дзве спальні, кабінет, ванная, кладоўкі. Сцены дома звонку аздоблены каляровай крошкай, што робіць іх вельмі прывабнымі, і, акрамя таго, няма неабходнасці кожны год бяліць.

— На пяцьдзесят гадоў разлічаны,— гаворыць Мікалай Васілевіч,— але праслужыць значна больш. У нас створана служба эксплуатацыі, выдаткі па ўтрыманню якой поўнасцю ўзяў на сябе калгас. Жыхары не плацяць за рамонт ні капейкі.

Праект новых дамоў-сядзіб распрацаваны з удзелам калгасных спецыялістаў. Якаснае паляпшэнне сельскага дома — вынік вялікай дапамогі дзяржавы ў арганізацыі жыллёвага будаўніцтва ў вёсцы. Час, калі селянін сам будаваў свой дом, адыходзіць у мінулае. Гэтыя клопаты бяруць на сябе спецыялізаваныя прадпрыемствы і будаўнічыя арганізацыі. Яны прымаюць заказы і ва ўстаноўленыя тэрміны здаюць дом «пад ключ».

У Беларусі сялянам-забудоўшчыкам дзяржаўныя банкі або калгасныя бухгалтэрыі прадастаўляюць крэдыты ў размеры 80 працэнтаў кошту будучага дома пад 0,5—2 працэнты гадавых. Селянін выплачвае палавіну пазыкі, і, калі ён добры працаўнік, астатняе пагашаецца за кошт сродкаў яго гаспадаркі. У калгасе «Ленінскі шлях» іншы падыход. Домсядзіба, аб якой было расказана, абыходзіцца 30 тысяч рублёў. 17 тысяч адразу ўносіць калгас, а селянін свае 13 тысяч пагашае за тры-чатыры гады.

Лідзія Дзерач заявіла: «Вельмі шмат асфальту. Вёска стаіць на зямлі, а ў вашых праектах яна быццам «саромеецца» свайго паходжання. Трэба праектаваць будаўніцтва такім чынам, каб дарогі праходзілі ў баку ад дамоў і машыны не атручвалі выхлапнымі газамі чыстае паветра».

Выказаць мовай архітэктуры гармонію адносін чалавека і прыроды далёка не проста. Спачатку селянін імкнуўся жыць «як у горадзе», цяпер — «як у горадзе, але ў той жа час у вёсцы».

Спецыялісты, якія праектуюць будаўніцтва ў сельскай мясцовасці, наконт гэтага выказваюць розныя думкі. Адны лічаць, што вёсцы патрэбны выключна сядзібы, другія аддаюць перавагу шматкватэрным дамам, трэція — што трэба будаваць і тое, і другое. Кожны бок аргументуе важка свой пункт гледжання. Пытанне шырока абмяркоўваецца на старонках друку.

Супраць камфартабельнага дома сядзібнага тыпу прынцыповых пярэчанняў няма. Ён сапраўды зручны ва ўсіх адносінах. Дом з садам, вядома, больш адпавядае спецыфіцы вёскі і мае ў той жа час у параўнанні з гарадскім істотную перавагу — блізкасць да прыроды.

Але як быць з тымі жыхарамі, хто аддае перавагу гарадскому ўкладу жыцця і хацеў бы мець тыпавую гарадскую кватэру?

На думку спецыялістаў, нельга скідваць з рахунку і эканамічны бок пытання. Пры забудове вёсак аднакватэрнымі дамамі непамерна ўзрастаюць расходы на інжынерныя камунікацыі. У асобных выпадках яны перавышаюць затраты на пабудову дома.

Што ж датычыць жылых дамоў на гарадскі манер, то нягледзячы на ўсе, здавалася б, неаспрэчныя перавагі як у бытавым, так і эканамічным плане, сялянам, як правіла, яны пакуль не падыходзяць. Праўда, вясковая інтэлігенцыя ў большасці сваёй менавіта за такое жыллё.

Відавочна, у спрэчцы — які дом у вёсцы лепшы — верх возьме змешаная забудова пасёлкаў, паколькі яна ўлічвае інтарэсы ўсіх. Таму ў новай серыі тыпавых дамоў беларускія архітэктары стварылі самыя разнастайныя варыянты: дамы-сядзібы на адну-дзве сям'і і шматкватэрныя ў некалькі павярхаў. Агульнае ж у іх — высокі ўзровень бытавога камфорту.

Па шляху змешанай забудовы вырашылі ісці і ў калгасе «Ленінскі шлях».

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

# ЖЫВЕ Ў НАРОДЗЕ

*ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Іосіфа УРБАНОВІЧА*



Ходзяць дзве думкі пра гераічныя натуры: адна кажа, што героем трэба нарадзіцца, другая — героем становяцца, абставіны выхоўваюць герояў. А слушнасць — у самім існаванні гэтых дзвюх думак: праўда амбівалентная, задаткі гераічнага закладвае прырода і завяршае справу грамадзянскае выхаванне. Калі б усё залежала толькі ад натуры, то праблему гераічнага вырашыла б генетыка, а калі б ад выхавання, то — сацыяльная педагогіка. Часта мы бачым, што ў гэтых самых умовах растуць, нават сядзяць за адной партай у школе два хлапчукі і з аднаго вырастае дзеяч, мастак, важак, а з другога шэры з'ядач хлеба, адзін становіцца ўладаром абставін, другі — рабом, у адным перамагае львінае, у другім — тхарынае. Уроджанае патрабуе выйсця, сцверджання, яно можа быць падтрымана абставінамі або заглушана. Калі мы думаем пра подзвіг мастака, то на першы план нам хочацца вылучыць талент, «дар божы», а калі справа ідзе пра грамадскага дзеяча, то нас інтрыгуе сама дзейнасць, незвычайныя жыццёвыя калізіі, біяграфія.

Юзік, як пяшчотна звалі землякі Іосіфа Урбановіча, нарадзіўся з задаткамі важака, гэта было ў яго крыві, але і дзяцінства яго стала парой гартавання характару, вызвалення грамадзянскага таленту. Тэмпература грамадскага жыцця мела тады нечуваныя перапады: сусветная вайна выгнала ў бежанства сялянскую сям'ю Урбановічаў з-пад Ружан ажно ў далёкі Сімбірск, дарослым давялося спазнаць нястачу, сумаваць па радзіме, але перад дзецьмі ахвяр вайны адкрываліся большыя, чым на радзіме, магчымасці вучыцца. Старэйшы брат Іван скончыў рэальнае вучылішча, рыхтаваўся паступаць у інстытут, марыў стаць інжынерам, следам за ім ішоў Андрэй. Абодва яны ўцягнуліся ў рэвалюцыйны рух, прымалі актыўны ўдзел у гр[illegible]дзянскай вайне. Калі бе[illegible] занялі Сімбірск, Іван стаў камандзірам партызанскага атрада, юным разведчыкам пры штабе якога дзейнічаў Юзік. Там ён здзейсніў свой першы баявы подзвіг — выратаваў камандзіра, калі той пайшоў на перагаворы з праціўнікам і апынуўся ў пастцы.

У 1922 годзе сям'я Урбановічаў вярнулася на радзіму, але старэйшыя сыны засталіся ў Савецкай Расіі. Прывязанасць да Івана і Андрэя, адчуванне асабістай далучанасці да рэвалюцыі, якой яны пасвяцілі сябе, складала галоўную ноту духоўнага жыцця юнака. Ва ўмовах буржуазнай Польшчы гэтае адчуванне набыло героіка-трагедыйную ахвярніцкую танальнасць, паколькі тут ідэалы рэвалюцыі праследаваліся. У 1924 годзе Урбановіч паступіў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, у вучнёўскім асяроддзі завяршалася складванне яго характару і светапогляду. Сярод вучняў было там парадкам такіх, што таксама, як і ён, падрасталі ў рэвалюцыйнай Расіі і змалку прывыклі бачыць, як сам народ стварае сваю гісторыю і вырашае свой лёс. Яны склалі авангард вучнёўскага калектыву. Урбановіч стаў сябрам і паплечнікам Уладзіміра і Веры Шчасных, Міхася і Юркі Тарасюкоў, паэта Алеся Салагуба, крыху пазней кіруючае ядро вучнёўскага калектыву папоўнілі паэт Валянцін Таўлай, будучы журналіст Якуб Міско, будучы фалькларыст і музыка А. Шыдлоўскі, паэт Максім Танк і іншыя. Беларускія гімназіі ў Заходняй Беларусі — Навагрудская, Клецкая, Радашковіцкая — былі кузнямі, у якіх ствараліся кадры нацыянальнай інтэлігенцыі. Не выпадкова выхаваўчую работу з моладдзю Віленскай гімназіі вялі тады на грамадскіх асновах члены ЦК КПЗБ — Арсен Канчэўскі, Леапольд Родзевіч, паэт і публіцыст Ігнат Канчэўскі, паэт Уладзімір Жылка, археолаг Іван Луцэвіч, фалькларыст Антон Грыневіч і многія іншыя дзеячы беларускага адраджэння.

Віленская гімназія з'яўлялася вядучай установай, тут адбывалася не толькі навучанне і выхаванне, але стваралася вучэбна-метадычная база для іншых сярэдніх школ. Дырэктарам гімназіі працаваў еўрапейскай вядомасці вучоны-гуманітарый Браніслаў Тарашкевіч, які стварыў першы беларускі падручнік па мове для сярэдніх школ. Яго паплечнікамі былі стваральнік першых падручнікаў і хрэстаматый па гісторыі беларускай літаратуры, таленавіты літаратар Максім Гарэцкі, аўтар беларускіх падручнікаў па матэматыцы Сымон Рак-Міхайлоўскі, настаўнік спеваў, музыкі, фалькларыст і літаратуразнаўца Рыгор Шырма. Гэта іх «тварэннямі» былі найвялі[illegible]я ў Еўропе прагрэсіўна[illegible] сялянска-рабочая партыя — Грамада (БСРГ) і масавая культасветная арганізацыя Таварыства беларускай школы (ТБШ).

У канцы 20-х гадоў гімназія стала арэнай сутычак паміж паланізатарскімі шавіністычнымі элементамі і прагрэсіўнымі сіламі нацыянальна-вызваленчага руху. Урбановіч разгортвае бурную грамадскую дзейнасць, кіруе акцыямі вучнёўскага пратэсту супраць дыскрымінацыі і пазбаўлення работы найбольш грамадска актыўных беларускіх настаўнікаў, становіцца сакратаром падпольнага Віленскага гаркома камсамола, выкарыстоўвае для камсамольскай работы ў Віленскім раёне раз'езды вучнёўскага гуртка мастацкай самадзейнасці, дзе выступае як танцор у пары з прыгожай Каўшанкай, дочкай гімназійнага папа, іграе часта першыя ролі — Якіма Сарокі, Кастуся Каліноўскага. Звалены з гімназіі за палітычную дзейнасць, якая забаранялася статутам сярэдніх навучальных устаноў, Урбановіч прадоўжыў рэвалюцыйную работу ў камсамоле Пружаншчыны, Слонімшчыны, некалькі месяцаў вучыўся ў партшколе КПЗБ у Мінску, стаў прафесійным рэвалюцыянерам, затым спешна вярнуўся, як тады гаварылі, у край, бо рэпрэсіі супраць Грамады моцна ўдарылі па кіруючым актыве КПЗБ. Зусім маладому, але ўжо вопытнаму і палітычна сталаму падпольшчыку партыйнае кіраўніцтва даручае ўзначаліць акруговыя камітэты КПЗБ у Баранавічах, потым у Брэсце. Гэта быў цяжкі час у гісторыі рэвалюцыйнага руху: з аднаго боку, левасектанцкія элементы ў кіраўніцтве КПЗБ штурхалі нізы на фарсіраванне рэвалюцыйных выступленняў, а з другога, органы дзяржаўнай бяспекі скарыстоўвалі наспех падрыхтаваныя і не забяспечаныя арганізацыйна акцыі як спажыву для рэпрэсій. Летам 1931 года ў Брэсце Урбановіч трапіў у рукі паліцыі. На допытах

## АНТЫВАЕННЫЯ АКЦЫІ САВЕЦКАЙ І ЯПОНСКАЙ ГРАМАДСКАСЦІ

# У БРЭСТ—НА КЛЯТВУ МІРУ

Сёння беларускі горад Брэст вядомы ва ўсім свеце. Тысячы замежных гасцей і турыстаў наведваюць яго штогод. У час Вялікай Айчыннай вайны гарнізон Брэсцкай крэпасці, знаходзячыся ў поўным акружэнні, больш месяца гераічна абараняўся супраць гітлераўцаў. Зраненыя, галодныя, змучаныя смагай абаронцы крэпасці пісалі на сценах: «Я паміраю, але не здаюся! Бывай, Радзіма!» Іх гераізм і стойкасць, якія сталі пачаткам Вялікай Перамогі над фашызмам, выклікаюць павагу і захапленне ўсіх.

Студэнты з В'етнама, якія вучацца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя Леніна, напісалі пасля наведання мемарыяла: «...Мы ішлі за экскурсаводам, стараліся ступаць бясшумна. Але ў вушах стаяў страшэнны грукат выстралаў, выбухаў, стогны абаронцаў сваёй Радзімы, якія паміралі, але не здаваліся ў палон. Мы доўга стаялі каля Вечнага агню. Маўчалі. Кожны думаў аб сваім. Але я ўпэўнены, што нашы думкі былі ўсё ж аб адным: няма больш страшнага бедства, чым вайна, якая сее гібель і пакуты. Недапушчальна развязванне новай крывавай вайны...»

Тры разы пабываў у крэпасці французскі камуніст Марыс Тарэз. Пасля яго смерці ўдава Жаннэта Тарэз-Вярмеш пісала: «Ён захаваў аб гэтых наведваннях хвалюючыя ўспаміны і яго ўдзячнасць гераічнаму савецкаму народу, які зрабіў усё, каб вызваліць Францыю, яшчэ больш умацавалася».

Подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці — жывы прыклад перш за ўсё для тых, хто змагаецца за мір, свабоду і незалежнасць. У музеі крэпасці ёсць матэрыялы, прысвечаныя кубінскаму пагранічніку Луісу Рамірэсу, які прыслаў з Кубы Рауль Кастра. 21 мая 1966 года Луіс Рамірэс быў забіты выстралам з амерыканскай базы Гуантанама. Выступаючы на пахаванні героя, Рауль Кастра сказаў: «Успомнім той факт, што ў яго ваенным білеце была старонка з кнігі «Героі Брэсцкай крэпасці» са словамі: «Мы будзем змагацца да канца!»

У Брэсце кожны год праходзіць шмат акцый, у тым ліку міжнародных, у абарону міру. А сёлета Таварыства японa-савецкай дружбы выбрала Брэст месцам правядзення чарговай антываеннай сустрэчы прадстаўнікоў японскай і савецкай грамадскасці. Я сустрэўся з вядомымі грамадскімі дзеячамі Японіі—старшынёй Таварыства японa-савецкай дружбы Іекаяма Тасіакі і намеснікам адказнага сакратара, пастаянным членам праўлення гэтай грамадскай арганізацыі Тасіко Іакасука, якія наведалі Беларусь па запрашэнню Саюза савецкіх таварыстваў дружбы. Іакасука Тасіко была ініцыятарам арганізацыі масавых акцый, якія ў Японіі называюць антываеннай клятвай. Вось і цяпер яна актыўна займаецца падрыхтоўкай чарговай японa-савецкай сустрэчы.



— Па-першае, хачу сказаць, што сёлета мы праводзім антываенную клятву ўжо шосты раз,— сказала Іакасука Тасіко. — Ідэя гэтых сустрэч прадстаўнікоў грамадскасці нашых краін поўнасцю адпавядае галоўнай задачы, якая стаіць сёння перад усімі міралюбівымі сіламі Японіі,— гэта ўмацаванне ўзаемаразумення і дружбы паміж японскім і савецкім народамі. З гэтай мэтай мы і раней практыкавалі паездкі ў Савецкі Саюз груп дружбы. Аднак у час уздыму антыядзернай барацьбы і антыракетнага руху мы зразумелі, што грамадства павінна рэагаваць па-новаму на пагрозу ядзернай вайны. Менавіта ў гэты час, у 1982 годзе, і нарадзілася ідэя правядзення масавых антываенных сустрэч прадстаўнікоў японскай і савецкай грамадскасці ў гарадах Савецкага Саюза, якія больш за ўсё пацярпелі ў час вайны з фашызмам.

Нагадаю, што ў канстытуцыі Японіі адзначаецца, што краіна павінна ісці па шляху міру. Але гэтае палажэнне канстытуцыі падвяргаецца ў апошні час бесперапынным атакам японскіх мілітарыстаў. Таму барацьба японскай міралюбівай грамадскасці ў абарону артыкула канстытуцыі Японіі аб міры з'яўляецца вельмі важнай.

У барацьбе за мір прыхільнікі міру ў Японіі імкнуцца аб'яднаць свае намаганні з народамі іншых краін, у тым ліку і з савецкімі людзьмі.

— Першая антываенная клятва, у час якой я ўпершыню ў сумесным савецка-японскім Маршы міру прайшла па дарогах Савецкага Саюза, адбылася ў трох гарадах — Ленінградзе, Мінску і Валгаградзе,— працягвае Іакасука Тасіко.— Гэтая акцыя ў абарону міру, супраць вайны зрабіла на ўсіх нас вялікае ўражанне. Мы нават думалі праводзіць яе традыцыйна кожны год па гэтаму маршруту. Але сёлета мы рашылі выбраць месцам правядзення чарговай антываеннай клятвы японскіх змагароў за мір горад Брэст, куды ў жніўні прыедуць звыш ста прадстаўнікоў з Японіі. Нам вядома, што антываенная тэма вельмі блізкая Брэсту. Брэст і крэпасць для нас—сімвал гераічнай барацьбы вашага народа супраць фашызму.

Нашу гутарку прадоўжыў старшыня Таварыства японa-савецкай дружбы Іекаяма Тасіакі:

— Некалькі дзён, якія мы правялі тут,— адзначыў ён,— далі нам магчымасць яшчэ раз убачыць, у чым заключаюцца сапраўдныя жахі вайны. Я зноў пераканаўся, што яны перш за ўсё ў тым, што вайна знішчае ўсё чалавечае. Нельга не гаварыць аб гэтым. Сваімі вачыма я бачыў месцы фашысцкіх злачынстваў. Бачыў помнікі, фатаграфіі, слухаў расказы пра жудасныя ваенныя часы. У сувязі з гэтым хачу сказаць, што працягванне Злучанымі Штатамі Амерыкі ядзерных выбухаў у той час, калі Савецкі Саюз не праводзіў іх такі працяглы час, было і застаецца парушэннем прынцыпаў гуманізму, злачынствам супраць чалавецтва.

— Я лічу, што сёлета ў сувязі з магчымым візітам Міхаіла Гарбачова ў Японію, якога мы чакаем, адносіны паміж нашымі краінамі і асабліва паміж таварыствамі дружбы значна пашырацца. З'явяцца новыя напрамкі для іх развіцця. Сёння наша асноўная задача — барацьба супраць пагрозы вайны. Упэўнены, што наша таварыства ў Японіі ўнясе належны ўклад у агульную справу барацьбы за мір.

**Генадзь ГУСЕЎ.**

прымянілі фізічныя катаванні, «адбілі» яму і без таго хворыя лёгкія. Прысуд выносіўся без прысутнасці падсуднага. Вязень захварэў на сухоты, за яго жыццё ўключылася ў барацьбу прагрэсіўная грамадскасць Польшчы, такія выдатныя яе прадстаўнікі, як упаўнаважаная савецкага Чырвонага Крыжа Стэфанія Семпалоўская і славуты адвакат Тэодар Дурач. Улады выпусцілі Урбановіча пад залог гаспадаркі, якую абрабляў старэйшы брат Уладзімір. Кіраўніцтва Кампартыі Польшчы паслала яго лячыцца ў санаторый Атвоцк пад Варшавай. Але лекаванне не давала чаканых вынікаў, Урбановіч накіроўваецца па лініі падпольнай сувязі ў СССР, спадзеючыся на больш эфектыўнае лячэнне і на падтрымку братоў (Іван стаў к таму часу інжынерам, а Андрэй — афіцэрам Чырвонай Арміі). Але план пераходу граніцы не ўдаўся, пагранічнікі перадалі ўцекача карным органам. Толькі па амністыі, аб'яўленай у сувязі са смерцю Ю. Пілсудскага, Урбановіча выпускаюць на волю. Ён едзе ў Варшаву, уладкоўваецца на завод бытавой хіміі «Сідоль» качагарам, арганізуе і ўзначальвае прафсаюз, працуе ў беларускіх культурна-асветных арганізацыях Варшавы, балюча перажывае роспуск партыі, праведзены ў выніку правакацыйнай дэзінфармацыі Камінтэрна, зблiжаецца з беларускімі культурна-асветнымі арганізацыямі Варшавы, аднаўляе сяброўства са школьным сябрам, музыкам і фальклaрыстам А. Шыдлоўскім, які жыў у Варшаве на правах палітычнага ссыльнага і беспрацоўнага. Урбановіч плануе выдаць легальную пракамуністычную беларускую газету, мяркуе выкарыстаць для гэтай справы папулярнасць беларускага спевака свайго дваюраднага брата Міхаіла Забэйду-Суміцкага, прапануе М. Танку ўзяць на сябе літаратурна-журналісцкі бок справы і атрымлівае прынцыповую згоду.

Гэта было напярэдадні другой сусветнай вайны. На вызваленай Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі Урбановіч праводзіць у жыццё ідэі сацыялізму, ён абіраецца старшынёй Ружанскага гарпасялковага Савета, шчасліва знаходзіць згубленую ў ваеннай завірусе сяброўку рэвалюцыйнага падполля Басю Кнубавец, якая стала яго жонкай. Вакол гарпасялковага і раённага Пружанскага Саветаў згуртаваўся актыў з ліку нядаўніх падпольшчыкаў, рэвалюцыянераў, сяброў Урбановіча. Гэтыя людзі мелі заслужаны давер мас, па іх ініцыятыве былі створаны першыя калектыўныя гаспадаркі ў раёне, адкрыты забароненыя польскімі ўладамі вясковыя клубы, хаты-чытальні, школы, у якіх нарэшце мовай навучання стала родная мова дзяцей і бацькоў — беларуская. Старшыня Савета не адцураўся сваіх даўніх захапленняў масавіка і самадзейніка, танцора, спевака.

Напад гітлераўскай Германіі на СССР у чэрвені 1941 года спыніў мірныя планы і прыемныя клопаты. Канфрантацыя паміж светам імперыялістычнай рэакцыі і светам сацыялізму перарасла ў ваенны канфлікт. З болем садзіўся Урбановіч у грузавік, на якім эвакуіраваўся актыў Савецкай улады з Ружанаў. У яго незнарок звалілася з галавы шапка. І ён, [illegible] палез яе паднімаць, махнуў рукой і сказаў: «Дзе шапка, там і галава будзе». Праз два месяцы ён з таварышам і земляком Іванам Жышко быў зноў на Пружаншчыне, цяпер ужо ў ролі спецыяльнага пасланца ЦК Кампартыі Беларусі з заданнем падняць антыфашысцкія сілы на барацьбу з акупантамі. Так пачаў ствараццa і дзейнічаць першы на акупіраванай тэрыторыі Беларусі антыфашысцкі Камітэт Брэстчыны. Яго арганізацыі дзейнічалі ў населеных пунктах былых Брэсцкай, Слонімскай і Беластоцкай абласцей. Старшынёю Камітэта быў абраны Іосіф Урбановіч, яго намеснікам— Мірон Крыштафовіч і Іван Жышко.

Талент грамадскага дзеяча і вопыт падпольшчыка падказалі Урбановічу адкрыць доступ у арганізацыю ўсім сумленным праціўнікам фашызму, усім патрыётам свайго краю. Здаралася, што ў нізавыя гурткі ўваходзілі і камуністы-бязбожнікі, і патрыятычна настроеныя свяшчэннікі, як напрыклад, зельзінскі бацюшка Антон Юшко. Галоўнай задачай Камітэта была падрыхтоўка і ідэалагічнае забеспячэнне ўзброенага партызанскага руху. Урбановіч наладжвае падпольную друкарню спачатку на гарышчы. у доме Міхаіла Аўдзейчыка з вёскі Апялянавічы, потым у спецыяльна абсталяваным бункеры на падворку Івана Барана ў вёсцы Байкі. Акрамя газеты «За родину», там друкавалася мноства лістовак на беларускай, польскай і нямецкай мовах. Узяты партызанамі ў палон немец Якоб Гоцэс, інжынер па адукацыі, адказваў за пераклад лістовак на нямецкую мову. У часе гэтага занятку перавыхаваўся і стаў антыфашыстам. Па закліках Якоба на бок партызан пераходзілі з фашысцкіх гарнізонаў немцы і паварочвалі зброю супраць фашысцкай тыраніі. Сам Якоб не мог удзельнічаць у баях, бо стаў інвалідам пасля ранення ў тым баі, дзе яго падабралі партызаны. Інструктарам Камітэта і сталым супрацоўнікам друкаваных выданняў быў паэт Мікола Засім, тэксты многіх лістовак пісаў сам Урбановіч пад псеўданімам Максім.

Антыфашысцкі Камітэт перарос у ідэалагічную і арганізацыйную базу партызанскага руху ў зоне дзеяння, яго нізавыя гурткі складалі рэзерв кадраў і звяно сувязі баявых адзінак з масамі. Цераз камітэтчыкаў да партызан ішла інфармацыя аб праціўніку, харчаванне, папера, медыкаменты. Кіраўніцтва Камітэта пільна сачыла за адносінамі паміж атрадамі і насельніцтвам, патрабуючы ад камандзіраў строгага захоўвання рэвалюцыйнай этыкі, прынцыпаў класавасці і палітычнага лідэрства ў барацьбе з ворагам. Сам Урбановіч быў маральным максімалістам, узорам ахвярнасці, справядлівасці і сумленнасці. Патрабавальнасць і прынцыповасць з'ядноўвалі яму людзей, памнажалі кола сяброў і паплечнікаў. Сярод іх аказаліся былы начальнік раённага аддзела НКУС, колішні ленінградскі настаўнік Я. Афанасьеў, другі сакратар Брэсцкага абкома КПБ, карэнны ленінградскі рабочы Іван Баброў, зямляк і таварыш Урбановіча, камісар партызанскай брыгады К. Талочка. Апошнія двое з названых загінулі ў баі за вёску Бялавічы, з якой акупанты намерваліся вывезці моладзь на работы ў Германію. Урбановіч быў у тым баі паранены. Вайна азначала для яго працяг змагання за свабоду і годнасць народа, якую ён вёў усё свядомае жыццё. У народзе ён меў шмат сяброў, добрых знаёмых, знаў мноства проста харошых людзей. Вайна для яго была змаганн[illegible]а каштоўнасці народнага [illegible]ку, за ідэалы камунізму, ідэалы чалавечнасці.

Загінуў Іосіф Урбановіч трагічна і, як нярэдка бывае, недарэчна, хоць, па-сутнасці, не выпадкова. Тады ўжо ён сумяшчаў абавязкі старшыні антыфашысцкага Камітэта і камандзіра партызанскай брыгады, калі сувязныя перадалі ў штаб, што група нейкіх марадзёраў грабіць Варанілавіцкую царкву. Камандзір асабіста кінуўся спыніць гнюснае бясчынства. Добрая слава партызанскага руху была для яго найвялікшай святасцю. Загінуў Іосіф Урбановіч, абараняючы гэты ідэал. Ён кінуўся спыняць грабежніцтва, бо адчуваў адказнасць за маральны стан у зоне дзеяння сваёй брыгады, адказваў за жыццё людзей і за каштоўнасці культуры, якія тут знаходзіліся, у тым ліку і за каштоўнасці культуры сакральнай, хоць сам быў атэістам.

Пахаваны Іосіф Урбановіч на партызанскіх магілках у Гута-Міхаліне, у сэрцы Ружанскай пушчы, якраз у той мясціне, дзе яшчэ ў 1924 годзе беларускія партызаны разганялі кантору англійскай фірмы «Агламарыя», што вывозіла драўніну за мяжу (так урад буржуазнай Польшчы разлічваўся за ваенную дапамогу, за кольты, браўнінгі, атрыманыя для вайны з рэспублікай Саветаў). У той баявой аперацыі ўдзельнічалі старэйшы сябар Урбановіча М. Крыштафовіч і важак заходнебеларускага камсамола Вера Харужая. Помнік загінуўшым партызанам у Гута-Міхаліне і бюст Урбановіча ў Ружанах пабудавалі землякі па сваёй ініцыятыве ды ў тыя гады, калі яшчэ нылі незагойныя раны вайны, даймала галеча, беднасць. Пружаншчына лічыла ўвекавечанне памяці свайго героя і абаронцы справай першай чаргі як справы гонару.

**Уладзімір КАЛЕСНІК.**

***ЧЕРНОБЫЛЬ: ГОД СПУСТЯ***

# ЧТО ПОКАЗАЛ ВЕСЕННИЙ ПАВОДОК

**Многие наши читатели интересуются сегодняшней обстановкой на территории, прилегающей к Чернобыльской АЭС. В частности спрашивают, что показала первая послеаварийная весна: как прошел паводок и не ухудшил ли он положение!**

**Надеемся, что в публикуемом нами материале вы найдете ответы на интересующие вас вопросы.**

Экзамен на осенние дожди загрязненные радиоактивностью окрестности Чернобыля выдержали неплохо. Достаточно сказать, что не понадобилось вводить никаких ограничений на пользование водой из Днепра.

И тем не менее дальнейшие работы по дезактивации, строительству защитных сооружений продолжались с тем же накалом. Все понимали, что главное испытание впереди — весеннее половодье. Ближние и дальние подступы к АЭС все это время оставались гигантской стройплощадкой. Меры предпринимались тотальные, с запасом. На путях возможной опасности в считанные месяцы выросли 137 инженерных сооружений: дамбы, каналы, земляные валы, плотины. Главная цель — перехватить поверхностные стоки, предупредить смыв радиоактивных веществ в окружающие водоемы. Там, где по природным условиям полностью перекрыть сток нельзя, дамбы сделаны фильтрующими, они содержат материалы, способные поглощать радионуклиды.

Беспокоила и судьба загрязнений в донном иле. Сильный паводок (даже в скромной Припяти средний многолетний приток воды составляет шесть кубических километров) способен часть ила поднять и понести, особенно на мелководье. Стало быть, даже при укрощенном реакторе есть опасность вторичного загрязнения. Поэтому и здесь понадобились упреждающие инженерные меры. В устье Припяти и верховье Киевского водохранилища с помощью земснарядов были сделаны иловые ловушки — донные каналы поперек течения глубиной 16 метров.

По мнению большинства специалистов, предпринятых усилий достаточно, чтобы, скажем, более чем двухмиллионный Киев, расположенный на Днепре в ста километрах южнее Чернобыля, мог без опаски открывать свои водопроводные краны. Но продолжает срабатывать синдром предельной ответственности. В результате к руководству было принято мнение сомневающегося меньшинства: в столице Украины, не считаясь с затратами, соорудили резервные системы водоснабжения — две дополнительные водные магистрали из реки Десны и добавочную сеть артезианских колодцев.

И вот время паводка настало (а для малых рек бассейна Днепра практически закончилось). Контрольные службы ведут непрерывный анализ радиационной обстановки на обширных площадях. Сейчас, когда пик половодья уже позади, можно говорить об истинном лице первой послечернобыльской весны. Если коротко—специалисты облегченно вздохнули. Колоссальные усилия, предпринятые для снижения неблагоприятных последствий беды, дали, пожалуй, больше, чем ожидалось. Так, уровень загрязнений основных водоемов оказался на два порядка (в сто раз) меньше установленной в Советском Союзе допустимой дозы.

Это очень хорошее известие. Оно означает, что невидимый враг локализован и сколько-нибудь заметное распространение радиоактивности приостановлено. Если учесть, что в бассейне Днепра проживает свыше 30 миллионов человек, цена такому факту становится очевидной. Как заявил заместитель начальника Главного санитарно-эпидемиологического управления Министерства здравоохранения Украины М. Мухарский, жители Киева могут отдыхать в зеленой зоне, купаться в Днепре, ловить рыбу.

Да, в прилегающих к Чернобыльской АЭС районах общий фон радиоактивного «посева» сильно упал: естественный распад и многочисленные дезактивационные ухищрения сделали свое дело. И тем не менее спецкоманды продолжают работать. Они сводят пострадавший от радиоактивности «рыжий» лес вокруг станции, отдельные участки почв срезаются машинами и вывозятся для захоронения. Все обнажения покрываются привезенным издалека «стерильным» песком и щебнем. Полагают, что к осени этого года обстановка в окружающей станцию зоне изменится радикально.

(АПН).



**«В биографии страны — и моя биография»,— так с полным основанием может сказать о себе почетный гражданин города Барановичи Иван Андреев. В октябре девятнадцатого под Тамбовом стал большевиком. Участвовал в гражданской войне. Великую Отечественную начал Андреев старшим лейтенантом, а закончил полковником. И снова — период возрождения, снова Иван Андреев в гуще дел и забот, которыми жила страна. Орден Ленина, ордена Отечественной войны I и II степеней, многие медали — свидетельство признания его заслуг перед Родиной. Сейчас ветеран партии, войны и труда И. Андреев на заслуженном отдыхе. Но и в свои девяносто лет не остался в стороне от общественных дел. Он был председателем городского Совета ветеранов, часто встречается с молодежью.**

**НА СНИМКЕ: почетный гражданин города Барановичи Иван АНДРЕЕВ.**

**Фото Э. КОБЯКА.**

*ПЕРШАЕ БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРАМЫ І КАМЕДЫІ: ПАМЯЦЬ І ЛЕГЕНДЫ*

# ЗАСЛОНУ АДКРЫЎ ВЕЦЕР РЭВАЛЮЦЫІ

Кажуць, тэатральны твор жыве толькі адзін вечар: сёння. Заўтра той жа самы склад выканаўцаў роляў, паўтараючы ўсе раней вызначаныя мізансцэны і нават інтанацыі мовы, паказвае спектакль у нечым адчувальна адметны. Гэта залежыць ад гледачоў (хто ў зале — моладзь, вяскоўцы, выпадковыя людзі ці калектыў якога-небудзь завода або інстытута), ад настрою артыстаў, узрадаваных аншлагам, або, наадварот, засмучоных няпоўным зборам. Ад выказанай у сённяшняй газеце крытычнай думкі пра гэты спектакль. Ад памяшкання, дзе выступае трупа... А тэатр? Ён «жыве», пакуль агні рампы асвятляюць твары і аблічча герояў класічнай драматургіі ці персанажаў п'ес сучасных і надзённых. Потым... Потым — успаміны.

Спытаем яшчэ раз: толькі ўспаміны?

Не! Што датычыць Першага таварыства беларускай драмы і камедыі, дык упэўнена можна сцвярджаць: яно пакінула пасля сябе не толькі ўдзячную памяць, а яшчэ і легенды. Легенды пра тое, як маладая нацыянальная інтэлігенцыя ва ўмовах рэвалюцыйнай сітуацыі ў краіне самаахвярна і паслядоўна дамагаецца стварэння прафесіянальнай і сапраўды народнай сцэны. Сваёй няўрымслівасцю група энтузіястаў тэатра абуджае спадзяванні і веру ў сябе, бо высока трымае сцяг свабоднага мастацтва.

Адкуль вы ведаеце гэта? Хіба з кніжак... Такое пытанне таксама магчымае. Адкажу. Не толькі з кніжак — з гістарычных і даследчых работ тэатразнаўцаў. З мемуараў і ўспамінаў людзей, якія мелі непасрэднае дачыненне да дзейнасці Таварыства. З гутарак з Ірынай Жданові́ч і Стафаніяй Станютай. Мабыць, з гутарак — найбольш. Дзіцячыя ўражанні выдатных актрыс яркія і маляўнічыя.

Перш-наперш энтузіясты не былі пустымі летуценнікамі. Вакол Фларыяна Ждановіча гуртаваліся сапраўдныя энтузіясты. Маладыя, таленавітыя ад прыроды, зграбныя, прыгожыя, артысты-пачаткоўцы маглі ў любых умовах рэпеціраваць і рабіць практыкаванні, развучваць песні і ладзіць танцавальныя нумары гадзінамі. Стамляліся. Злаваліся на рэжысёра. А той выціраў пот з твару, усміхаўся, нібы атрымліваў найвялікшую асалоду ад сто разоў паўторанага «па» ці сцэнічнай бойкі, і ветліва гаварыў: «Цяпер яшчэ раз — з самага пачатку, а тады — па хатах...».

Заслону ў клубах яшчэ, здаралася, узнімалі ўгару. У іншых памяшканнях замест заслоны рассоўваліся звычайныя прасціны. Сёння на Ляхаўцы рампа — газавыя ліхтары, назаўтра ў цэнтры горада артыстаў асвятляе сапраўдная (электрычная) рампа. То грыміруюцца ў цесных пакойчыках: тут — жанчыны, там — мужчыны, то «атрымліваюць» кожны па сваёй асобнай «грымпрыбіральні». Афішы стракацяць на платах і на тумбах, запрашаючы мінчан на «Паўлінку», на «Моднага шляхцюка»... Тэатр нараджаецца. Тэатр будзе!

«Будзе...» Мінчане глядзяць рамантычную драму «Сягонняшнія і даўнейшыя» паэтэсы Канстанцыі Буйло і не могуць адвесці вачэй ад такой прыгожай вясковай дзяўчыны Ганулі, што фатальна пакахала сына гаспадара Рамана... Хай будзе ў гэтай гісторыі нешта вядомае нам яшчэ «паводле Шэкспіра», дык жа наша беларуская актрыса Гэля Пралеска жыве ў вобразе так, як таго вымагае сапраўды трагедыйнае ўладарнае пачуццё. Сялянская Джульета. А Фларыян Ждановіч тут — кавалер амаль што рыцарскага духу, і яго Раман перажывае амаль «тое ж», што... шэкспіраўскі Рамэо. І воплескі залы, здаецца, грукаюць у столь клуба. І назаўтра гэтыя імёны робяцца вядомымі, папулярнымі, любімымі — Гэля Пралеска... Фларыян Ждановіч... Зоркі беларускай сцэны.

Наогул, як і Ігнат Буйніцкі, прыцягальным цэнтрам артыстычнай моладзі, якая марыла пра тэатр, быў Фларыян Ждановіч. Да красавіка 1917 года, калі ён разам з Усеваладам Фальскім, Уладзіславам Галубком, Зоськай Верас і іншымі апантанымі ідэяй нацыянальнага тэатра людзьмі аднаўляў дзейнасць Таварыства, яму давялося прайсці складаныя тэатральныя універсітэты. Пад пільным вокам тагачаснай жандармерыі ён то ўзрушаў залы дэкламацыяй рэвалюцыйных вершаў, напісаных па-беларуску, і тым прапагандаваў творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, то збіраў таленав[illegible]х дзяўчат і хлопцаў у гу[illegible]к і ставіў п'есы на беларускай мове. Спачатку перакладныя, потым зробленыя ім самім жа інсцэніроўкі, затым драмы і камедыі Я. Купалы, К. Буйло, К. Кага У розных мінскіх клубах, у Вільні, у Радашковічах, у Ракаве, у Заслаўі, у Койданаве на спектаклі і вячоркі беларускіх артыстаў ішлі людзі, якія ўжо ведалі імя Фларыяна Ждановіча, помнілі выступленні Першай беларускай трупы пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага. Атмасферу такіх сустрэч гледачоў з артыстамі добра перадаюць словы сведкі трыумфа І. Буйніцкага і яго паплечнікаў: «Нецярпліва чакалі хвіліну, калі паднімецца заслона, а ў беларускіх сэрцах панавалі адначасова і радасць, і трывога за сваё роднае, за ўдачу гэтых першых жрацоў беларускага сцэнічнага мастацтва...».

Урачыста гучыць — «жрацы», але, відаць, інакш цяжка было перадаць захапленне сапраўды высокім мастацтвам артыстаў — пачынальнікаў вялікай справы. Яшчэ ўчора — аматары. Пачаткоўцы. Адкуль жа бралася тое мастакоўскае натхненне, што ўзнімае таленавітую натуру на вяршыні сцэнічнага мастацтва? Падхапіўшы ідэю нацыянальнага тэатра ад І. Буйніцкага, Фларыян Ждановіч зразумеў, што на хвалі рэвалюцыйных змен, у віхуры нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення народа з-пад прыгнёту і можа найбольш ярка раскрыцца прыродная таленавітасць як асобных схільных да тэатральнай творчасці людзей, так і калектыву апантаных, з'яднаных агульнай марай і мэтай гарадскіх і вясковых дзяўчат і хлопцаў. Вобразна кажучы, акрылены вецер рэвалюцыі адкідаў заслону — і на падмостках ззяла, пералівалася фарбамі, струменіла, спявала, бунтарыла вобразнае беларускае слова. І ўзнікалі перад гледачамі каларытныя характары, яркія чалавечыя тыпы, персанажы, постаці. Яшчэ ўчора скептыкі лічылі, што беларусам спатрэбяцца доўгія гады для станаўлення нацыянальнай артыстычнай трупы, якая мела б права называцца тэатрам, а сёння, дакладна кажучы, 23 красавіка 1917 года, мінчане горача апладзіруюць і вітаюць сталы па ідэйна-мастацкіх якасцях спектакль Першага таварыства беларускай драмы і камедыі.

«Паўлінка» Я. Купалы і «У зімовы вечар» — п'еса, напісаная Ф. Ждановічам па матывах аповесці Э. Ажэшкі «Рысь». Сацыяльнае гучанне абодвух твораў адпавядала грамадскаму настрою таго часу. Жанравая разнастайнасць — ад камедыі-вадэвіля да трагедыйных глыбіняў высокай драмы. Моўнае багацце і хараство драматургічнай пабудовы відовішча. Наяўнасць каларытных і сапраўды народных характараў. Сюжэтная інтрыга. Гармонія задумы з выкананнем... Як адразу смела і рашуча заяўляе пра сябе гэты малады тэатр! Адзінкі ў Расіі чулі тады, што нібыта ёсць у беларусаў свая літаратура, фальклор, абрады, адметныя звычаі, спевы і танцы... Але — тэатр? І «раптам» — зусім па-еўрапейску. На ўзроўні лепшых прафесіянальных ансамбляў. Драма і камедыя!.. Праз некалькі дзён мінчанам выпадае здзіўляцца і захапляцца драмай «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйло, праз дзень даецца спектакль «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага. Рэпертуар!

У маі таго ж года Таварыства набывае статус самастойнай культурнай установы. На чале справы — І. Буйніцкі, мастацкае кіраўніцтва і рэжысура — Ф. Ждановіч, адміністрацыйны цэнтр — У. Фальскі і А. Крыніца (праўда, І. Буйніцкі неўзабаве памёр).

Адкуль чэрпалі маладыя артысты прафесійныя веды, майстэрства, натхненне? Стафанія Станюта спасылаецца на імёны людзей, якія ўзначалілі Таварыства. Буйныя творчыя асобы. Свядомыя будаўнікі і нястомныя арганізатары тэатра. Моцныя сваёй садружнасцю з Я. Купалам, М. Багдановічам, З. Бядулем, Ядвігіным Ш., яны вылучаліся высокай творчай патрабавальнасцю — да саміх сябе і да кожнага супрацоўніка Таварыства. І ўпартая праца. І самаадукацыя.

Стваральнікі тэатра, яны былі закліканы і абавязаны адразу ж абвясціць ясную творчую і ідэйную праграму беларускай сцэны. І гэта было зроблена імі. Рэпертуарам, дзе высокая трагедыя змянялася лірычнай драмай, а вадэвіль — вострай камедыяй. Узроўнем артыстычнага выканання роляў, калі акцёр раскрывае складаны псіхалагічны свет героя і выяўляе ў вобразе непаўторную чалавечую адметнасць пэўнага сацыяльнага тыпу. У калектыў ручаінамі ўліваюцца яркія індывідуальнасці — з горада і з вёскі, і кожны новы артыст нясе з сабой жыццёвыя назіранні, песні родных аселіц, інтанацыі мясцовай гаворкі. Не будзе перабольшаннем сказаць, што Ф. Ждановіч наладзіў вялікі акцёрскі сход, каб на жывой справе сцвердзіць ідэю нацыянальнага тэатра.

Не будзем пералічваць аб'ектыўныя перашкоды, якія ўзнікалі перад Таварыствам. Ад мая 1917 да восені 1920 года ў Мінску значыла свае сляды вайна. Артыстам даводзілася часам выступаць ва ўмовах акупацыі горада. Дыпламатыя, хітраванні, але не было прыстасаванства да тых, хто панаваў у гарадской камендатуры. Пра перыпетыі лёсу Таварыства тых гадоў, дарэчы, напісана нямала артыкулаў. Заўважым толькі адну акалічнасць, што пацвярджае грамадзянскую сталасць Ф. Ждановіча і яго супрацоўнікаў. Менавіта ў гэты час Таварыства паказвае трагедыю «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, твор, які засведчыў веліч і самастойнасць беларускай сцэны. Паказаны ў дні, калі контррэвалюцыйныя сілы ўзняліся на дэмакратычныя заваёвы народа (ліпень 1917 года), спектакль выконваў і надзённыя задачы: абвастраў сацыяльнае пачуццё ва ўдзельнікаў народнага руху і рэвалюцыі, клікаў да барацьбы за свабоду і праўду, акцэнтаваў непрымірымасць інтарэсаў беднага сялянства і паноў.

У спектаклі выдатна выступалі артысты, чыя творчасць адпавядала тагачасным высокім крытэрыям мастацтва. Пры ўсім драматызме чалавечых лёсаў спектакль «Раскіданае гняздо» ўзмацняў у душах гледачоў прыязнасць да ўсяго роднага, абуджаў роздум, выклікаў грамадскі напал. Адукаваныя людзі тады здзіўляліся адмыс[illegible]аму майстэрству А. К[illegible]цы (Лявон Зяблік), Ф. Ждановіча (Сымон), А. Ліпнічэнкі (Зося), В. Тарасік (Марыля), Р. Жакоўскага (Старац)... Дарэчы, тады ж адбыўся дэбют нашай выдатнай трагедыйнай актрысы Ірын[illegible] [illegible]дановіч: у ролі хлопч[illegible] яна вымаўляла-выкрыквала толькі два словы «Дах разбіраюць!», але колькі эмацыянальнай сілы было ў гэтым дзіцячым сігнале вялікай бяды!.. Пазней у спектаклі бліскуча раскрыліся таленты П. Мядзёлкі і Г. Грыгоніса.

Яны вандравалі... Ім забаранялі выступаць акупацыйныя ўлады. Іх спрабавалі спакусіць фальшывымі заклікамі і палітычнымі ідэйкамі. Яны вымушаны былі перапыняць сумесную дзейнасць. Ды зноў і зноў збіраліся разам артысты Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Калі 14 верасня 1920 года пад гукі «Інтэрнацыянала» адкрылася заслона Беларускага дзяржаўнага тэатра, яны святкавалі жаданую перамогу і плакалі ад шчасця. Сёння Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы вядомы ва ўсім свеце. А пачыналася яго дзейнасць з таго, што энтузіясты і выхаванцы Таварыства паказалі ў сталіцы Савецкай Беларусі першы спектакль прафесіянальнай трупы беларусаў. Сярод іх былі Ф. Ждановіч, А. Крыніца, К. Міронава, Г. Грыгоніс, Л. Навахацкая, А. Ільінскі, К. Саннікаў, Б. Дольскі, В. Пола, Т. Бандарчык...

Ёсць у тэатральным мастацтве нешта, што не паддаецца тлумачэнню, нейкая тайна. Вось і тут — дагэтуль штосьці самае запаветнае ад тых часоў, калі Ф. Ждановіч яшчэ толькі збіраў маладых летуценнікаў і працаўнікоў, каб наладзіць спектаклі нацыянальнай сцэны, — мо запал душы, мо жыццёвая праўда, мо маляўнічасць мовы, — але штосьці і па сёння гучыць «адтуль», з тых часоў.

Дзякуй Таварыству!

**Барыс БУР'ЯН.**

## МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ



**Працягваецца II Усесаюзны фестываль народнай творчасці, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Самадзейныя мастакі і фотааматары, спевакі і танцоры, інструментальныя ансамблі і цыркавыя калектывы выступаюць перад працоўнымі са справаздачнымі выстаўкамі і канцэртамі. Фестываль выяўляе новыя таленты, дэманструе ўзросшае майстэрства ўдзельнікаў, сярод якіх і ансамбль танца Дома культуры ўпраўлення бытавога абслугоўвання Мінскага гарвыканкома.**
**НА ЗДЫМКУ: на сцэне — удзельнікі ансамбля.**

## СЯМЕЙНЫЯ АНСАМБЛІ

Агляд творчых самадзейных ансамбляў прайшоў у гарадскім Палацы культуры прафсаюзаў Брэста. Напярэдадні ў мікраранёнах актывісты пастукаліся літаральна ў кожную кватэру, запрасілі на свята самадзейных спевакоў, танцораў.

У сямейным вакальна-інструментальным ансамблі Груздзевых удзельнічаюць бацька і дачка Наташа, якія працуюць на тэлефонна-тэлеграфнай станцыі, другая дачка Ірына — настаўніца, самая малодшая, Таццяна, скончыла музычнае вучылішча.

У ансамблі Сакажынскіх, вядомых на Брэстчыне сваімі творчымі традыцыямі, галоўная фігура — бабуля Лідзія Пашкоўская. Каб выступіць разам са сваімі дзецьмі і ўнукамі, ёй давялося зрабіць амаль стокіламетровае падарожжа з Антопаля. У гэтым сямейным ансамблі разам з бабуляй спяваюць супрацоўнік гасцініцы «Інтурыст» Пётр Сакажынскі, яго жонка Ірына — загадчыца дзіцячага сада панчошнага камбіната, дзеці Дзіма і Оля, пляменнікі Сярожа і Таня.

## ДОРАЦЬ ДОБРЫ НАСТРОЙ

Усе ўдзельнікі ансамбля песні і танца «Беларусачка» Маладзечанскага завода сілавых паўправадніковых вентыляў — рабочыя, тэхнікі, інжынеры. А два разы на тыдзень яны сустракаюцца ў вольны ад работы час у заводскім клубе. І тады гучаць песні, пачынаюцца заліхвацкія скокі. Вось ужо дванаццаты год самадзейныя артысты дораць сваім гледачам добры настрой. Выканаўчаму майстэрству ансамбля апладзіравалі не толькі ў Маладзечне, але і ў Літве, на Украіне, у Ленінградзе, дзе калектыў пабываў на гастролях. Заводскія артысты былі таксама запрошаны на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі СССР, за выдатнае выступленне там удастоены дыплома.

Летась у складзе поезда «Дружба» ансамбль «Беларусачка» пабываў у ГДР, дзе выступаў з канцэртамі і быў удастоены медаля «Выдатны калектыў народнай творчасці Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі».

## ВЫЙШЛІ НОВЫЯ ПРАЦЫ ПА МОВАЗНАЎСТВУ

# ПРАЦЭС УДАСКАНАЛЕННЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Сучасная беларуская літаратурная мова — адна з форм існавання нацыянальнай культуры беларускага народа, сродак зносін у розных сферах яго жыццядзейнасці. Адметнай рысай сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца высокі ўзровень яе апрацаванасці. З пакалення ў пакаленне яна шліфавалася і творча ўзбагачалася майстрамі слова — пісьменнікамі, публіцыстамі, вучонымі, дзеячамі культуры і асветы. Апрацаванасць сучаснай беларускай літаратурнай мовы выяўляецца не толькі ў дасканаласці ўласцівых ёй сродкаў, але і ў наяўнасці строгіх, агульнапрынятых правіл іх выкарыстання. Нормы літаратурнай мовы выпрацоўваліся на працягу доўгага часу. Яны замацаваны ў адпаведных падручніках, слоўніках, розных даведніках і г. д., пашыраюцца праз школу, друк і іншыя каналы, з'яўляюцца абавязковымі для ўсяго грамадства. Грамадскае значэнне літаратурных норм выключна вялікае, бо дзякуючы ім дасягаецца адзінства ўсёй сістэмы літаратурнай мовы, яна робіцца даступнай і агульназразумелай, набывае строгую ўпарадкаванасць.

Сучасная беларуская літаратурная мова параўнальна маладая, не ўсё ў ёй яшчэ адстаялася і прыйшло да завяршэння, таму сёння працэс далейшага ўдасканалення яе працягваецца. Гэта датычыцца як граматычнага ладу, так і лексікі і фразеалогіі. Зразумела, што працэсу далейшай нармалізацыі мовы і кадыфікацыі яе норм у першую чаргу спрыяюць лінгвістычныя даследаванні. У гэтым плане мовазнаўцамі рэспублікі за апошнія 10—15 год праароблена значная работа. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы ў пяці тамах (1977—1984), Руска-беларускі слоўнік у двух тамах (1982), Беларуская граматыка (І частка—1985, ІІ частка — 1986) і некаторыя іншыя працы адыгрываюць істотную ролю ў выпрацоўцы і замацаванні літаратурных норм.

У апошнія гады ў навуковым і перыядычным друку з'явіўся цэлы шэраг артыкулаў, прысвечаных культуры мовы. У штогодніку «Беларуская лінгвістыка», напрыклад, пытанням культуры мовы адведзены асобны раздзел. Гэта яшчэ адно сведчанне пільнай увагі навуковай грамадскасці да праблем нармалізацыі мовы, яе чысціні.

Сярод мовазнаўчых прац, якія з'явіліся ў апошнія часы на паліцах кнігарань і ў той ці іншай ступені спрыяюць далейшаму ўпарадкаванню беларускай літаратурнай мовы, неабходна адзначыць дзве кнігі, што выйшлі ў выдавецтве «Вышэйшая школа». Гэта манаграфія акадэміка АН БССР М. Бірылы «Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове» (1986) і «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» старшых навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР Г. Арашонкавай і В. Лемцюговай (1987).

Аб змесце кнігі М. Бірылы красамоўна сведчыць яе назва: у кнізе даецца апісанне сістэмы націску назоўнікаў. Аднак, каб больш глыбока ўнікнуць у сутнасць тэмы, спынімся на некаторых асаблівасцях гэтай працы, якая можа быць выкарыстана ў якасці дапаможніка-даведніка практычнымі работнікамі друку, радыё і тэлебачання, выкладчыкамі беларускай мовы вышэйшых навучальных устаноў і сярэдніх школ, студэнтамі, вучнямі.

Пасля агульнай характарыстыкі націску як моўнай з'явы, вызначэння акцэнтнай нормы, яе варыянтаў і адхіленняў аўтар на аснове існуючых акцэнталагічных і лексікаграфічных работ і аналізу акцэнтуацыі назоўнікаў у мове мастацкай літаратуры дае сістэмнае апісанне націску назоўнікаў беларускай літаратурнай мовы. Назоўнікі групуюцца па акцэнтных тыпах, устанаўліваецца лексічны састаў кожнага з тыпаў, паказваюцца галоўныя словаўтваральныя групы лексікі, характэрныя для кожнага тыпу, прасочваюцца тэндэнцыі акцэнтуацыі ў моўнай практыцы.

У існуючых слоўн[illegible] націск звычайна абазначаецца толькі ў пачатковай форме назоўнікаў — форме назоўнага склону адзіночнага ліку, для назоўнікаў мужчынскага роду — яшчэ ў форме роднага склону, зрэдку ў [illegible]мах назоўнага і роднага [illegible]онаў множнага ліку. Такім чынам, для пераважнай большасці словаформ усіх назоўнікаў, прадстаўленых у лексікаграфічных работах, націск не рэгламентуецца. Гэты прабел запаўняе кніга М. Бірылы, у якой паказваюцца нарматыўнае месца націску і магчымыя варыянты ў пачатковай і ўскосных формах. Акрамя таго, у розных слоўніках сустракаюцца выпадкі разыходжання ў падачы месца націску пачатковых форм, напрыклад, **бундэсвéр, бундэстáг** у Руска-беларускім слоўніку (1982) і **бýндэсвер, бýндэстаг** — у Тлумачальным слоўніку беларускай мовы, форм роднага склону адзіночнага ліку, напрыклад, **абшлáга** і **абшлагá**. Пры падачы двух акцэнтных варыянтаў іншы раз слоўнікі разыходзяцца ў вызначэнні іх чарговасці, што сведчыць аб неаднолькавай ацэнцы гэтых варыянтаў. Усе гэтыя спрэчныя пытанні закранаюцца і вырашаюцца ў кнізе «Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове». Каштоўнасць і практычная накіраванасць гэтай работы значна павялічваецца тым, што ў канцы яе змяшчаецца слоўнік назоўнікаў, якія ў моўнай практыцы ўжываюцца з адхіленнямі ў акцэнтуацыі. Такім чынам, праца М. Бірылы «Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове» з'яўляецца не толькі значным дасягненнем беларускай мовазнаўчай навукі, але і істотным укладам у працэс нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы, культуры мовы.

Выключна важнае месца ў замацаванні існуючых у сучаснай беларускай мове норм зойме Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы Г. Арашонкавай і В. Лемцюговай. Ён з'яўляецца першай спробай агульнадаступнага дапаможніка, у якім зведзены і ў той ці іншай ступені пракаменціраваны найбольш тыповыя цяжкасці арфаграфічнага, лексічнага, граматычнага і стылістычнага характару, што сустракаюцца ў сучаснай моўнай практыцы. «Асноўная задача Слоўніка, — адзначаюць аўтары, — садзейнічаць лепшаму засваенню норм пісьмовай і вуснай мовы, дапамагчы чытачу ў выбары варыянтаў слоў і форм, існуючых у межах літаратурнай нормы, у ацэнцы моўных фактараў з пункту гледжання правільнасці або няправільнасці іх ужывання». Слоўнік змяшчае перш за ўсё лексіку сучаснай беларускай літаратурнай мовы. З мэтай больш шырокага задавальнення патрэб пісьмовай і вуснай практыкі ў яго ўключаны таксама рад тэрмінаў, слоў размоўнага стылю, невялікая колькасць слоў устарэлых і абласных, якія пашыраны ў мове мастацкіх твораў. Матэрыял падабраны з такім разлікам, каб як мага паўней ахапіць лексіку, пры выкарыстанні якой узнікаюць цяжкасці ў напісанні, вымаўленні, размежаванні сэнсу слоў, а таксама цяжкасці граматычнага характару. Паводле арфаграфічных і фанетычных цяжкасцей у слоўнік увайшлі словы з невымоўнымі зычнымі: **кантраст — кантрастны**; словы з галосным «ы» пасля прыставак: **безыдэйнасць, разыграны**; словы, напісанне і вымаўленне якіх не рэгламентуецца ніякімі правіламі, тыпу **бадмінтон, вінегрэт, інгрэдыент** і некаторыя іншыя. Паводле цяжкасцей у плане словаўжывання ў Слоўнік уключаны словы, блізкія па гучанню, але розныя па значэнню, а таксама аднакарэнныя і рознакарэнныя, блізкія па сэнсу словы: **абанемент — абанент, загаловачны — загалоўны; турысцкі—турыстычны** і г. д. У сувязі з цяжкасцямі граматычнага характару ў Слоўніку рэгулярна падаюцца граматычны род і некаторыя формы назоўнікаў, формы прошлага часу і загаднага ладу дзеясловаў, калі яны ўтвараюцца нестандартным спосабам або вар'іруюцца. Слоўнік змяшчае некалькі артыкулаў, якія прысвячаюцца правапісу абрэвіятур, вялікай літары, скланенню ўласных геаграфічных назваў, імён і прозвішчаў.

Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы Г. Арашонкавай і В. Лемцюговай карысны тым, што ён ахапілае цэлы шэраг моўных з'яў і фактаў, якія з'яўляюцца выключэннем з агульных заканамернасцей. А гэта значыць, што Слоўнік адпавядае патрэбам часу ў нармалізацыі мовы, спрыяе вырашэнню праблем чысціні і культуры мовы.

**Сяргей БЕРДНІК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# ШАНУЮЦЬ ІМЯ ЗЕМЛЯКА

Жыццё і творчая дзейнасць вядомага беларускага драматурга Андрэя Макаёнка цесна звязана з Гроднам. У пасляваенны час ён працаваў сакратаром гаркома камсамола, разам з моладдзю аднаўляў спалены нямецкімі захопнікамі горад над Нёманам. Гродзенцы не раз выбіралі яго дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі. Пісьменнік быў частым госцем жыхароў горада, цікавіўся работай прамысловых прадпрыемстваў, школ, бальніц, культурна-асветных устаноў, аказваў адпаведную дапамогу ў выраўшэнні наказаў сваіх выбаршчыкаў. І сёння, калі няма ў жывых пісьменніка, гродзенцы шануюць яго імя. Цэнтральная гарадская бібліятэка носіць імя выдатнага драматурга. У яе чытальнай зале адкрыта пастаянная выстаўка, прысвечаная яго творчай і грамадскай дзейнасці.

На спецыяльным стэндзе размешчаны часопісы «Полымя», «Беларусь», «Неман», у якіх упершыню былі надрукаваны творы А. Макаёнка. П'есы «Выбачайце, калі ласка», «Лявоніха на арбіце», «Трыбунал» сталі класікай нацыянальнай драматургіі і па сённяшні дзень не сыходзяць са сцэн многіх тэатраў нашай краіны. І, відаць, не выпадкова мастакі-афармліцелі асобны стэнд прысвяцілі галоўным героям п'ес драматурга, розным і па ўзросту, і па характару, але заўсёды жывым, узятым пісьменнікам з глыбінь народнага жыцця.

Нядаўна ў старажытным горадзе знаходзіліся на гастролях артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У іх рэпертуары, побач з іншымі творамі, была п'еса Андрэя Макаёнка «Верачка».

**І. СУХОЦКІ.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**Нядаўна ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў упершыню адбылася выстаўка міні-габеленаў, якія з другой паловы 70-х гадоў раз-пораз пачалі з'яўляцца ў рэспубліканскіх экспазіцыях прыкладнога мастацтва. Міні-габелен дазваляе ў вельмі лаканічнай форме (не заўсёды, ды і не абавязкова ад буйных памераў залежыць мастацкая вартасць) выказаць самую неардынарную думку, вырашыць яскравы вобраз, вельмі хутка рэалізаваць яго ў матэрыяле ў параўнанні з маруднай працай, неабходнай для выканання буйнамаштабных габеленаў, якая займае часам не адзін месяц.**





**Да міні-габелена звяртаюцца амаль усе вопытныя тэкстыльшчыкі — Н. Пілюзіна, В. Грыдзіна, Т. Белавуса-ва-Пятроўская і іншыя. З гэтай формы таксама пачынаюць свае спробы ў мастацтве тэкстылю маладыя мастакі, напрыклад, В. Лісавенка, Р. Салаўёва. Экспазіцыя мела эксперыментальны характар, тут можна было прасачыць вынікі вырашэння розных мастацкіх задач.**

**Шмат новых ідэй для мінітэкстылю мастакі знаходзяць у формах і з'явах стрыманай беларускай прыроды. Яны вырашаюцца ў выглядзе тэкстыльных эцюдаў — «Родныя прасторы» В. Крывашэевай, «Зямля прывольная» Л. Скрыпнічэнкі, «Надвячорак» В. Бартлавай, «Світанак над Свіслаччу» М. Шчамялёвай, «Гурбы» А. Салохінай. Самыя розныя жыццёвыя назіранні, думкі, часам гумар, фальклорная метафара кладуцца ў аснову кампазіцый «Жанчына. Зіма», «Гром і маланка» Л. Пятруль. Сродкамі міні-габелена нашы сучаснікі расказваюць пра гістарычныя лёсы Радзімы, выказваюць пашану да яе слаўных сыноў і дачок. Тут можна прыгадаць работы С. Свістуновіча «Смутак. Час Рагнеды», А. Шунейкі «Заслаўска-мінская харугва. 1410 г.», Я. Шунейкі «Ян Вісліцкі ў Кракаве».**

**Выстаўка, такім чынам, выявіла як шматфарбную вобразнасць міні-габеленаў, так і вострую неабходнасць яе далейшай усвядомленай распрацоўкі.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: А. ЛОСЬ. «Вясна»; Л. ПЯТРУЛЬ. «Дачыненне да вечнасці», «Астры».**



# ТАВАРЫСТВА МАЛАДЫХ

У Доме літаратара ў Мінску адбылося арганізацыйнае пасяджэнне таварыства маладых літаратараў. Згуртаванне іх даўно стала надзённай патрэбай. Шлях, які творца выбірае напачатку, шмат у чым вызначае далейшы лёс пісьменніка.

Таварыства маладых літаратараў сваімі галоўнымі задачамі лічыць літаратурную вучобу і прапаганду беларускай літаратуры і культуры. Аб'яднанне імкнецца да творчых сувязей з маладымі мастакамі і кампазітарамі рэспублікі.

На пасяджэнні выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч.

У маі таварыства маркуе правесці некалькі творчых вечароў: у Доме літаратара, педагагічным інстытуце імя Горкага, прыняць удзел у свяце паэзіі ў Вязынцы.

# КАЛІ ВАС ЦІКАВІЦЬ БЕЛАРУСКАЯ КНІГА...

## У 1987 ГОДЗЕ ВЫДАВЕЦТВЫ РЭСПУБЛІКІ ВЫПУСЦЯЦЬ:

«Гары, агонь Кастрычніка». Зборнік. Вершы.— Мн., «Мастацкая літаратура».

Кнігу аб самай галоўнай падзеі дваццатага стагоддзя — Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, аб яе правадыры У. І. Леніне склалі новыя творы сучасных беларускіх паэтаў.

**В. КАЗЬКО.** «Хроніка дзетдомаўскага саду». Раман.— Мн., «Мастацкая літаратура».

Раман вядомага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Віктара Казько пра лёс дзетдомаўскага саду, які заклалі нашы бацькі адразу пасля сканчэння грамадзянскай вайны. Сад — гэта напамінак нашчадкам пра тых, хто загінуў у барацьбе за шчасце новых пакаленняў. Сад — гэта родная зямля, якую людзі павінны берагчы і ўпрыгожваць.

**М. ЛУЖАНІН.** «Вярнуся ветрам». Вершы.— Мн., «Мастацкая літаратура».

У кнігу старэйшага беларускага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа Максіма Лужаніна ўвайшлі вершы аб сённяшніх днях і клопатах сучасніка. Другую частку кнігі складаюць гумар і сатыра.

**А. САВІЦКІ.** «Верасы». Раман.— Мн., «Мастацкая літаратура».

Раман уваскрашае падзеі першых дзён Вялікай Айчыннай вайны, раскрывае веліч духу савецкіх салдат — прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей нашай Радзімы. У цэнтры кнігі — вобраз маладой дзяўчыны, студэнткі медыцынскага інстытута, якая выратавала групу цяжкараненых байцоў, але сама загінула, мужна, без ваганняў прайшла сваю салдацкую дарогу.

**Б. НОРМАН.** «Мова: знаёмая незнаёмка».— Мн., «Вышэйшая школа».

Пра мову, пра яе выхаваўчыя функцыі расказваецца ў кнізе. Асобны раздзел прысвечаны моўнай творчасці чалавека і моўным гульням (пародыі, каламбуры, анекдоты); да яго прыкладаецца жартаўлівы «Этымалагічны слоўнік».

**М. КУШЫН.** «Парадоксы сучаснага капіталізму».— Мн., «Народная асвета».

Глумачацца і выкрываюцца некаторыя хадавыя міфы аб сучасным капіталізме — аб эканамічнай «роўнасці» рабочых і капіталістаў, «невінаватасці» капіталізму ў масавым беспрацоўі, аб тым, што ў капіталістычным грамадстве кожны можа стаць багатым, і да т. п.

**С. ШАМРУК.** «Лекавыя расліны». Давед. дапаможнік.— Мн., «Ураджай».

Расказваецца аб лекавых дзікарослых травах, даюцца рэкамендацыі па іх нарыхтоўцы, ахове прыродных рэсурсаў. Прыводзяцца звесткі аб тэрмінах збору, сушэнні і захоўванні лекавай сыравіны, яе закупцы аптэкамі.

Даюцца парады па акультурванню некаторых відаў лекавых раслін.

**В. ЛАБАЧЭЎСКАЯ, Н. КУЗНЯЦОВА.** «Вазьмі простую саломку».— Мн., «Полымя».

Гэта дапаможнік па пляценню з саломкі прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога і бытавога прызначэння. Дадзена кароткая гісторыя гэтага віду народнага мастацтва, яго развіцця ў Беларусі.

**Г. МАРЧУК.** «Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына». Казкі.— Мн., «Юнацтва».

Зборнік складаецца з дзвюх частак. Галоўныя героі першай — дзед Васільчык і баба Кацярына. Многа гора зведалі яны ў жыцці, але захавалі дабрыню, шчырасць, пачуццё гумару. Дзед і бабка вучаць унукаў любіць свой край, родную зямлю. Цікавыя казкі пра Несцерку, гэтага нястомнага, кемлівага героя беларускага фальклору.

## ГЭТЫЯ КНІГІ ВЫ МОЖАЦЕ ЗАКАЗАЦЬ ПРАЗ НАСТУПНЫЯ ФІРМЫ:

**NETHERLANDS**

«Pegasus Boekhandel»
Leidsestraat 25
1017 NT Amsterdam,

**FINLAND**

«SN — Kiejat OY»
Tolppatie 8
SF-00880 Helsinki

**ENGLAND**

Central Books Ltd.
37 Gray's Inn Road
London W.C. IX 8PS
(Books in English)

Collet's Holdings Ltd.
Denington Estate, Wellingborough
Northants, NN8 2OT

Collet's Russian Bookshop
39 Museum Street
London W.C.1

**SCHWEIZ**

Pinkus Genossenschaft
Froschaugasse 7
8025 Zürich

Buchhandlung A. Francke AG
Postfach 1445
3001 Bern

**AUSTRALIA**

«New Era Books & Records»
64-68 Shepherd Street
Marrickville N.S.W. 2204

**ESPANA**

Libr... Rubinos-1860
Alc... 3
28009 Madrid

**USA**

1. Vi...r Kamkin, Inc. 12224
F... awn Drive
Ro...ville, Md. 20852/USA
2. Victor Kamkin, Inc. 149 Fifth Ave. New York, N. Y. 10010/USA
3. Imported Publications 320 West Ohio St. Chicago, 111. 60610/USA
4. «Znanie» Bookstore 5237 Geary Blvd. San Francisco, Calif. 94118/USA

**BRD**

1. «Kubon & Sagner»
Postfach 34 01 08
8000 München 34
2. Brücken-Verlag GmbH
Postfach 1928
4000 Düsseldorf 1

**ITALIA**

Italia — URSS
Via Edilio Raggio, 1—10
Genova

Italia — URSS
Piazza della Republica 47
Roma

Libreria Edest s.n.c.
Edizioni Estere
Via Cairoli 12/4
16124 Genova

**F..NCE**

Les Livres Etrangers
10, rue Armand Moisant
Paris 15 France

Librairie du Glo'
2, rue de Buci
Paris 6 France

**CANADA**

Progress Books
71 Bathurst St.,
3rd Floor
Toronto, Ontario
M5V 2P6

Troyka Ltd.
College St. 799A
Toronto, Ontario
M6G 1C7

Canadian Importers Co. Ltd.
P. O. Box 1640, 10215-97 St.,
Edmonton, Alberta

Ukrainska Knyha
962 Bloor St. West
Toronto Ontario
M6H 1L6

Librairie Nouvelles Frontières
185 Rue Ontario
Montreal Quebec
H2X 1H5

People's Co-op Bookstore
353 West Pender St.,
Vancouver 3, B.C. V6B 1T3

*САЧЫЦЕ ЗА НАШАЙ РЭКЛАМАЙ*

## ЧАС ЧАРОМХАВАЙ ЗАМЕЦІ

...Яшчэ нядаўна далягляды былі ахутаны шызым туманам. Лес доўга яшчэ здаваўся блакітным, пакуль згушчаўся і цямнеў зялёны дым, а парывісты, пругкі вецер нёс з поўдня вільготны пах вясны. Быў самы сіні месяц — красавік... Але міналі дні, і як ноч пераходзіць у дзень, непрыкметна сінь ператваралася ў аксаміт, малахіт, пакуль не стала спелай зелянінай лета.

На майскія святы зацвіла чаромха. Яшчэ ноччу вяртаўся мароз, а яна ў зацішку, каля сцяны хаты, ужо даўно зазелянела, выкінула зеленаватыя султанчыкі суквеццяў. Яны нібы застылі на старце цвіцення, чакаючы ўстойлівага цяпла. На дрэвах пачалі распускацца пупышкі, і чаромха — зацвіла...

Незадоўга перад цвіценнем чаромхі да яе вярнуўся салавей. Як нішто не можа параўнацца з ёй у багацці квецені, хмельным водары, так і ніводная птушка не складае сур'ёзнага саперніцтва салаўю.

...Цямнеюць плямы дрэў і хмызняку на светлым фоне месячнай ночы. Буйна квітнее бэз. Шэра-блакітнымі здаюцца размытыя вясенняй ноччу акварэлі знаёмых даляглядаў... І над усім — залівістыя, звонкія рулады, посвіст і пошчак шэрых спевакоў. Хіба можна, хоць раз у жыцці перажыўшы гэта, забыцца на такое? Дзіўны, непаўторны малюнак майскай ночы пад серабрыстым ззяннем месяца, калі цвіце чаромха і да світання не сціхаюць, заліваюцца салаўі!

Пройдзе некалькі дзён, і пачне згасаць буйная белая квецень. Зямля нібы ў снежнай замеці ад белых пялёсткаў чаромхі.

**В. ФЕРАНЦ.**

## ДАЛІКАТЭСНАЯ РЫБА

У Беларусі вугры жывуць у басейнах рэк Дняпра і Заходняй Дзвіны, Нёмана і Буга, на нарачанскіх, Браслаўскіх і віцебскіх азёрах.

Рэгулярныя засяленні беларускіх азёр вуграм пачаліся з 1956 года. Для гэтага малявак вугра сталі адлоўліваць у месцах іх сезонных збораў у вусцях рэк Англіі і Францыі і перавозіць у азёры Беларусі. Штогадовыя ўловы вугроў у апошнія гады складаюць каля 200 цэнтнераў. Вельмі важным з'явілася тое, што супрацоўнікі лабараторыі экалогіі і інтрадукцыі рыб Інстытута заалогіі АН БССР упершыню ў свеце дабіліся ў штучных умовах сінхроннага паспявання самак і самцоў, апладнення ікры і атрымалі перадлічынак еўрапейскага вугра.

**І. ШПАДАРУК.**



Новым цэнтрам эстэтычнага выхавання стаў музей, які адкрыўся пры Капыльскай музычнай школе. Сабраныя энтузіястамі беларускага фальклору старадаўнія музычныя інструменты, вырабы нацыянальнага ткацтва і вышыўкі, творы жывапісу, шматлікія дакументы расказваюць аб музычнай культуры раёна, развіцці на вёсцы мастацкай самадзейнасці.

НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі фальклорнага ансамбля «Капыльскія дудары» Аляксандр ЕЎДАКІМАЎ і Марат РАЕЎСКІ з наведвальнікамі музея; у зале музея.

Фота Я. КАЗЮЛІ.



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 775